№ 225 (1289)

Субота, 1 снежня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

ТВ-программа на неделю

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі невялікі снег, на дарогах галалёд. Вецер усходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — -3...-5, Магілёве — -2...-4, Мінску — -1...-3, Гродне — 0...-2, Гомелі, Брэсце каля 0.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, у асобных раёнах невялікі снег, мокры снег, слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца. Вецер усходні, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ўначы — -1...-6, пры праясненнях да -11; удзень — -4...+1.






# ...І ДАРУЙ НАМ, БЯЗВОЛЬНЫМ І НЯМОГЛЫМ

*Слова на развітанне з Віктарам АСТАФ'ЕВЫМ*



Пайшоў з жыцця адзін з самых выдатных пісьменнікаў сучаснасці Віктар Пятровіч Астаф'еў — вялікі мастак слова ў рускай літаратуры XX стагоддзя, вялікі абаронца лепшых традыцый рускага краснага пісьменства, вялікі грамадзянін і чалавек.

Бясспрэчна, ва ўсіх гэтых іпастасях ён быў і цяпер ужо назаўсёды застанецца вялікім. Як бясспрэчна і тое, што заўсёды будуць жыць і хваляваць новыя пакаленні чытачоў яго творы: знакамітыя "Зацесі", "Відушчы посах", "Апошні паклон", "Сумны дэтэктыў" і, нарэшце, "Праклятыя і забітыя" — кніга яго пісьменніцкага лёсу, вялікая вернасцю праўдзе жыцця, бясстрашнай шчырасцю споведзі, невымерным болем за ўсё, што адбывалася на яго вачах на гэтай выклятай Богам зямлі.

Рускай інтэлігенцыі, літаратуры і культуры стане цяпер нашмат цяжэй. Бо стане яшчэ больш рэальнай небяспека драбнець і апускацца, траціць духоўныя апоры. Дай жа, Божа, каб гэтага не здарылася, каб яго смерць ускалыхнула душы тых, для каго паняцце вялікая руская культура — не пусты гук, хто яшчэ здольны процістаяць нечуванай агрэсіі пошласці і цынізму, каб гэтая культура не захлынулася канчаткова ў балоце бездухоўнасці, у якое яе цягнуць і цягнуць марадзёры ад літаратуры і мастацтва.

З паведамлення расійскага тэлебачання мы даведаліся, што абласны Савет дэпутатаў адмовіў нават ужо цяжка хвораму Віктару Астаф'еву ў назначэнні персанальнай пенсіі. Брава, расійскае чынавенства, брава! На скрыжалях гісторыі несумненна будзе запісаны і гэты твой маральны подзвіг.

Помню Віктара Пятровіча па сустрэчах на з'ездах і пленумах Саюза пісьменнікаў у Маскве. Сярод надта ж важных літаратурных генералаў і ненатуральна шумных, самаўпэўненых "геніяў" ён быў самы неімпазантны, не кідкі, амаль непрыкметны. Адчувалася, што яму няўтульна сярод гэтай кірмашовай мітусні. Ён глядзеў на яе і, здавалася, думаў: а ёсць жа, апрача Масквы, Расія, ёсць забытыя Богам вёскі і рабочыя пасёлкі, ёсць рускія людзі з мазалямі на руках, у зацёганых фуфайках, у гумовых ботах, і іх — мільёны, мільёны, мільёны... І менавіта гэтыя людзі, іх жыццёвыя клопаты, іх мараль і філасофія, і іх мова бачыліся яму на старонках яшчэ ненапісаных кніг. І іх Мова... Мова! Што датычыць мовы, то, думаю, роўных яму ў сучаснай рускай літаратуры няма.

Аднойчы па заканчэнні пісьменніцкага з'езда, перад яго вячэрнім цягніком на радзіму, у Сібір, ён добрую гадзіну правёў у нас — у "беларускім" нумары гасцініцы. Мы адчувалі, што ён горнецца да беларусаў, рад сустрэчы з імі, можа, за тое, што не бачыў пыхі і фанабэрыі, якое ён, мудрэц з душою дзіцяці, проста не цярпеў.

Дзесьці ў сярэдзіне 80-х пазваніў мне ў Саюз пісьменнікаў Беларусі Сяргей Паўлавіч Залыгін — яшчэ адзін сібірак, які вельмі сімпатызаваў беларусам, і спытаў, як мы глядзім, калі чацвёра рускіх пісьменнікаў нанясуць нам візіт, паездзяць па гарадах і вёсках рэспублікі, пасустракаюцца з людзьмі, сваімі ўдзячнымі чытачамі. А гэтыя чацвёра — Віктар Астаф'еў, Валянцін Распуцін, Васіль Бялоў і ён, Сяргей Залыгін. "Прагаварыце, дзе трэба, магчымасць такога нашага візіту і, калі ласка, паведаміце мне. Усе хлопцы вельмі горача падахвоціліся прыехаць. Быкаў пра гэта ведае".

Не хаваючы радасці, я звязаўся з ідэалагічным сакратаром ЦК і выклаў прапанову з вялікім энтузіязмам. І быў асаджаны імгненна. "Гэта яшчэ трэба падумаць, гэта не такое простае пытанне". Праз колькі дзён мне ў аддзеле культуры ЦК патлумачылі: прычына адказу — у Астаф'еве. Незадоўга перад тым ён "нешта не тое" сказаў ва Уладзівастоку, у Прыморскім краі. "Ідэалагічны аддзел ЦК КПСС трасе і калоціць ад гневу, а вы хочаце яго запрасіць у Беларусь. Каб ён і тут насаліў? Абыдзецца".

І сустрэчы не адбылося. Ад страху, што Астаф'еў і ў нас можа сказаць "нешта не тое". А сапраўды, возьме дый скажа, напрыклад, так: "Што гэта ў вас, сябры, робіцца? Ужо колькі дзён езджу па рэспубліцы — і яшчэ не пачуў, каб беларусы гаварылі на сваёй роднай мове! Што гэта такое, браткі? Як вам не сорамна?..".

Так і наша чынавенства баялася яго слова праўды. Але ж менавіта праўдай яго кніг было тое, што зрабіла яго імя адным з самых паважаных, аўтарытэтных і любімых у чытацкім народзе. Ён гаварыў праўду безаглядна, безагаворачна і бескампрамісна. Гаварыў — бо іначай не мог, бо іначай не быў бы самім сабой. Так ужо, на шчасце, наканавана Расіі і рускай літаратуры, што ў самыя неспрыяльныя для Праўды часы знойдзецца вялікі ў сваім бясстрашшы мастак слова, які гаворыць людзям праўду і толькі праўду — пра іх і пра сябе, пра непадзельныя іх і яго выпрабаванні, цярпенні, пакуты.

І яшчэ адзін штрышок да светлага вобліку гэтага слаўнага чалавека. Калі многія вядомыя майстры сучаснай рускай літаратуры паддаліся д'ябальскай спакусе і пачалі ва унісон з імпершавіністамі патрабаваць ад беларускай творчай інтэлігенцыі адмовіцца ад ідэі нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі, Віктар Пятровіч Астаф'еў не далучыў свой голас да гэтага неразумнага і непрыстойнага хору. Значыць, ад Бога было яму дадзена разумець і вызнаваць тое вялікае агульначалавечае, што ў гісторыі цывілізацыі вызначала волатаў нацыянальнага духу, волатаў асветы і культуры, мастацтва і літаратуры.

Бывай, дарагі Віктар Пятровіч, і даруй нам, бязвольным і нямоглым, што мы не былі гаспадарамі на сваёй зямлі і што твая мара — пагасцяваць у Беларусі — так і не збылася.

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

**МОСКВА — МИНСК**

# Беларусь — на продажу?

**Александр СИЛИЧ**

В рамках последнего саммита глав государств СНГ белорусский правитель вел активные переговоры с "акулами" российского бизнеса. Основной предмет переговоров: акционирование (читай: продажа) лакомых кусочков промышленности Беларуси крупнейшими олигархами России — Дерипаской, Алекперовым и другими. По сообщениям российской прессы, "проекты взаимовыгодного сотрудничества, которые российское открытое акционерное общество "Нефтяная компания "Лукойл" хотела бы реализовать в Беларуси, обсуждались на встрече Александра Лукашенко с руководителем компании Вагитом Алекперовым... Лукашенко подчеркнул также, что "Лукойл" уже занял довольно прочные позиции на белорусском рынке".

Олигарх Алекперов, как известно, давно и упорно пытается установить свой полный контроль над белорусской нефтехимией. В Гродно, Могилеве и Новополоцке, других городах, где расположены нефтехимические предприятия, ожидают крупномасштабных экспансий российского капитала. Не случайно накануне президентских выборов в Беларуси руководитель "Лукойла" похвалил экономическую политику Лукашенко и пообещал привлечь в страну один миллиард долларов инвестиций. Пришло время платить по счетам?

Самыми прибыльными предприятиями Беларуси, среди которых — МАЗ, МТЗ, "Крыніца", как мы уже писали, кроме "Лукойла", интересуются "Руспромавто", "Сибирский алюминий", "Балтика".

Зачем наша власть вдруг решила "отдаться" русскому бизнесу? Батька Лукашенко прекрасно понимает, что без крупных финансовых вливаний извне не выстоит не только наша падающая промышленность, но и построенный им дорогостоящий государственный режим.

Говоря по большому счету, ничего плохого в том, что в Беларусь пойдут инвестиции из-за рубежа, нет. Настораживают две вещи. Во-первых, почему инвестиции в полуживой белорусский бизнес пойдут исключительно из России? При криминальной природе большей части российского капитала весьма сомнительно, что движение финансовых потоков будет открытым и подотчетным обществу. Во-вторых, смущает личность главного гаранта крупных финансовых сделок — Александра Лукашенко, чья кредитная история, равно как и политическая, не очень, мягко говоря, впечатляющая.

Еще одна забавная деталь с СНГ-овского саммита. Батька, забыв о славе земляков-белорусов Коваленка и Климука, решил вдруг взрастить первого белорусского космонавта. "Космонавт из Беларуси обязательно полетит в космос", — заявил он, посещая ракетно-космическую корпорацию "Энергия" в подмосковном городе Королеве. Как сообщают РИА "Новости", "Лукашенко пробыл на этом предприятии около двух с половиной часов. Он осмотрел монтажно-испытательный цех предприятия, где изготавливают пилотируемые космические корабли серии "Союз-ТМ" и грузовые корабли серии "Прогресс-М".

Зная самолюбие и амбициозность руководителя исполнительной власти Беларуси, я даже начинаю догадываться, кто является претендентом №1 на роль первого белорусского космонавта...

**ЗАКУЛИСЬЕ**

# Министр внутренних дел ищет работу?

В кулуарах Министерства внутренних дел говорят о том, что министр **Владимир Наумов** написал рапорт с просьбой освободить его от занимаемой должности по состоянию здоровья. По слухам, новую работу Владимиру Владимировичу должны найти до Нового года. А в кресло министра внутренних дел будто бы хотят посадить теперешнего шефа службы безопасности президента **Евгения Дверницкого (его кандидатура, кстати, однажды уже была в списке тех, из кого выбирали министра).**

В службе безопасности президента данную информацию не опровергают, философски замечая, что все может быть. За год в этом ведомстве сменилось уже три начальника. Там уже вообще перестали удивляться кадровым перестановкам.



Пресс-секретарь министра внутренних дел **Дмитрий Партон** утверждает, что Владимир Наумов никакого рапорта не писал. Работает так же воодушевленно, как и раньше. И вообще, на его взгляд, снимать Наумова не за что: все показатели криминогенности исключительно положительные, преступность с каждым месяцем снижается. Да и Александр Григорьевич вроде бы им доволен. В черном перечне чиновников-олигархов фамилии министра пока нет: в отличие от других, фешенебельных квартир и дач с золотыми унитазами за Наумовым не числится.

До назначения на должность экс-командир отряда специального назначения "Алмаз" на здоровье не жаловался. Правда, в последнее время Владимира Владимировича часто навещает доктор из госпиталя МВД. А в октябре министр какое-то время находился в госпитале на плановой диспансеризации. Люди, приближенные к персоне министра, говорят, что практически во все поездки Наумов тоже ездит вместе с доктором.

До недавних пор Владимир Наумов был единственным министром, который регулярно встречался с журналистами на пресс-конференциях. Наумову можно было задать любой вопрос. Он, к своей чести, всегда отвечал. Иногда, правда, совершенно беззастенчиво, уходил от прямых, честных ответов (как, например, в случае с подтверждением подлинности рапорта генерала Лопатика). В Министерстве внутренних дел говорят, что следующая пресс-конференция Владимира Наумова запланирована на конец года. Интересно, это будет последняя встреча министра с журналистами?..

А может, кому-то просто выгодно распространять слухи?..

**Марина КОКТЫШ.**
**Фото IREX/ProMedia.**

# Не подмажешь — не поедешь

В июле-августе этого года в рамках проекта Международной финансовой корпорации "Развитие малого и среднего бизнеса в Беларуси" проведен опрос руководителей предприятий. В нем опрошены предприниматели 335 малых и средних предприятий во всех регионах страны. Получены любопытные результаты. Вот как, например, они ответили на вопрос:

**"Как часто руководители частных предприятий вынуждены давать взятки (в любой форме) представителям органов власти?"**

44% 41%

0% 10% 20% 30% 40% 50% 60% 70% 80% 90% 100%

■ Такого явления нет ▨ Изредка □ Постоянно

Как видим, 41 процент опрошенных признаются, что вынуждены постоянно "благодарить" чиновников, 44 процента — что изредка, и лишь 15 процентов заявили, что такого явления у нас нет.

Словом, большинство предпринимателей вынуждено оплачивать взятками решение стоящих проблем. Как говорится: "Не подмажешь — не поедешь".

Эти данные содержатся в седьмом выпуске аналитического бюллетеня "Малый и средний бизнес в Беларуси".

**ПУЛЬС**

# Малдова не хоча бегчы за Беларуссю і Расіяй

**Малдова не гатова пакуль увайсці ў саюз Беларусі і Расіі. Пра гэта паведаміў агенцтву "Інтэрфакс" міністр замежных спраў Малдовы Мікалай Дудэу.**

На думку Дудэу, у саюзе Беларусі і Расіі ідуць складаныя інтэграцыйныя працэсы нават пры наяўнасці агульнай мяжы.

"Разам з тым у сваёй знешняй палітыцы, — адзначыў Дудэу, — Кішынёў арыентуецца на ўдзел у рознаўзроўневых структурах і інтэграцыйных працэсах — такіх, напрыклад, як СНД і ГУУАМ". У той самы час Малдова пазбягае і не прымае ўдзел у ваенна-палітычных структурах. "Гэта, — сказаў глава малдоўскага МЗС, — супярэчыць нашай Канстытуцыі".

**Наталля ГАК.**

# Юрый Хадыка рыхтуецца да абароны суверэнітэту Беларусі

**"Правядзенне рэферэндуму па такім пытанні як фактычнае абмежаванне суверэнітэту Беларусі патрабуе паправак у Канстытуцыю".**

Так пракаменціраваў намеснік старшыні Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ Юрый Хадыка паведамленне старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Вадзіма Папова аб тым, што ў першай палове 2002 года не выключана правядзенне ў Беларусі рэферэндуму па пытаннях, звязаных са стварэннем саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

"Я калісьці браў удзел у "круглым стале" ў Маскве, дзе абмяркоўваліся перспектывы беларуска-расійскай інтэграцыі, — сказаў Хадыка. — Там нават маскоўскі бок адзначаў, што для такой інтэграцыі неабходна ўнесці папраўкі ў Канстытуцыю як Беларусі, гэтак і Расіі". У той жа час, адзначыў ён, "пры сённяшнім рэжыме нават самыя неверагодныя рэчы могуць адбывацца, таму ставіцца абыякава да такіх заяў ад чыноўнікаў высокага рангу... немагчыма". "Я думаю, што гэта будзе прымушаць прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацый рыхтавацца вельмі сур'ёзна да супрацьдзеяння", — лічыць Юрый Хадыка.

**Наталля КУЛАГІНА.**

# Затрыманы дырэктар аўтарынку

*Падчас вобыску ў яго канфіскавана 30220 долараў*

**Супрацоўнікамі ўпраўлення Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі па Мінскай вобласці 28 лістапада затрыманы дырэктар і два кантралёры аўтарынку закрытага акцыянернага таварыства "Гандлёвы свет "Кольца", які размешчаны ў вёсцы Азярцо Мінскага раёна.**

Яны затрыманы за сістэматычнае вымагальніцтва хабару ў прадпрымальнікаў за прадастаўленне гандлёвых месцаў. Падчас вобыску ў кантралёраў канфіскавана 9780 долараў, а ў дырэктара — 30220 долараў. Узбуджана крымінальная справа.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

**ПОЗИЦИЯ**

*Как известно, только что в Москве завершился очередной саммит СНГ. Лукашенко снова признался в любви к России. Его позиция, а также позиция наших палатников на отношения Беларуси и России, хорошо известны. А каков взгляд на эти отношения оппозиции? На эту тему рассуждает председатель Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько.*

*Анатолий ЛЕБЕДЬКО:*

# "Мы хотим предложить обществу правый взгляд на белорусско-российские отношения"



**— Свой первый визит после президентских выборов делегация Вашей партии осуществила в Москву. Это случайность или закономерность?**

— Россия была, есть и будет фактором ощутимого влияния на развитие ситуации в Беларуси. Понимание этого определяет приоритеты наших международных контактов.

Любой вид деятельности требует системного подхода. У нас каждый политик, смотрящий российское телевидение, считает себя крупным специалистом по России. На самом деле ТВ демонстрирует лишь парадный фасад российской политики, а это дает лишь самое общее представление. Как ни парадоксально это звучит, но у нас ощущается дефицит хороших экспертов по России, и очень немногие системно работают на российском политическом рынке. Мы пытаемся восполнить этот пробел. Без соответствующих контактов, знаний, информации сегодня невозможно эффективно работать в России.

**— Но и в Беларуси россияне не выделяются активной публичной деятельностью. Разве что в период президентской кампании достаточно активно вели себя представители ряда российских партий.**

— Российские политики испытывают те же проблемы. Их представления о Беларуси и процессах, здесь происходящих, еще более деформированы, упрощены и искажены.

Гораздо более информированы о реальной ситуации в нашей стране представители российских спецслужб и деловых кругов. Первые по долгу службы, вторые из-за меркантильного интереса. Практически каждая серьезная структура, проявляющая интерес к нашей стране, имеет специальную аналитическую группу по Беларуси и свое лобби в структурах и органах власти.

Что касается российских персонажей на белорусском телевидении во время избирательной кампании, то это напомнило мне галерею портретов членов Политбюро на первомайской демонстрации: Зюганов, Проханов, Жириновский...

**— В таком случае необходимы какие-то реальные действия.**

— Безусловно. Все это время тема белорусско-российских отношений являлась монополией, вотчиной левых. Этакая овечка, с которой можно регулярно стричь политические дивиденды. Интеграция стала синонимом слова *объединение.*

Мы намерены сломать устоявшиеся стереотипы и развеять существующие мифы. С этой целью создана специальная рабочая группа под условным названием "группа Мау-Романчука" (Владимир Мау и Ярослав Романчук ее руководители). Их задача подготовить документ под названием "Правый взгляд на белорусско-российские отношения".

**— И когда можно будет ознакомиться с результатами работы группы?**

— Предполагается, что презентация "Правого взгляда" произойдет в феврале 2002 года. С этой целью в Минск прибудет делегация СПС во главе с Борисом Немцовым и Ириной Хакамада. Мы намерены подписать соглашение о сотрудничестве СПС и ОГП и ознакомить общественность Беларуси с содержанием данного документа. Аналогичная работа будет проведена в России. У наших российских коллег есть возможность продвинуть стратегию в кабинеты власти, включая Кремль.

**— Вы обсуждали в Москве инициативы, с которыми выступила ОГП в Беларуси?**

— Конечно. Наша экономическая программа вызвала повышенный интерес, равно как и предложение о переговорах власти и оппозиции. В Москве будут очень внимательно следить за реакцией властей на наши инициативы.

**— Может ли Москва, каким-то образом содействовать переговорам в Беларуси?**

— Россия — член ОБСЕ. Ее представитель мог бы войти в состав миссии КНГ ОБСЕ, которой по силам выполнить функции посредника. Таким образом был бы соблюден баланс интересов и преодолено недоверие, существующее к миссии со стороны белорусских властей.

**— Почему встреча Лукашенко с Путиным была отложена до саммита СНГ в Москве?**

— У России сейчас иные проблемы и другие приоритеты. Следствием атаки террористов на США стало создание антитеррористической коалиции, в которой России предложено занять надлежащее ей место. У России есть уникальный шанс на достижение долговременного союза с Вашингтоном и Брюсселем. И, кажется, Путин не намерен этот шанс упустить.

**— Каковы в таком случае могут быть последствия для официального Минска?**

— Кремль во взаимоотношениях с Лукашенко и раньше предпочитал рукопожатия вместо поцелуев. Есть основания полагать, что Россия намерена обратиться к опыту работы Макаренко с хулиганистыми пацанами. Как известно, эта педагогика не ограничивалась только чтением лекций и увещеваниями.

Способствуя развязыванию белорусского узла проблем, Кремль может еще больше упрочить свое положение на Западе. Таким образом, позитивное воздействие России на официальный Минск политически и экономически мотивировано.

Лукашенко может рассчитывать на прежние чувства и отношения разве что со стороны российских коммунистов и жириновцев.

**— Но в Москве не очень было заметно изменение отношения к Лукашенко...**

— Путин слишком умен, чтобы публично демонстрировать свое внутреннее состояние. Москва будет давить Лукашенко в объятиях. То, что разговор был жесткий, подтвердил и советник российского президента по международным вопросам Приходько. Следует ожидать, что во властных структурах России произойдет разделение труда по отношению к официальному Минску. Будут ответственные за демонстрацию любви к Лукашенко, и те, кто будет выполнять по отношению к нему функцию кнута. В первом случае это российские левые, окопавшиеся в парламенте, в другом — правительство, особенно его структурные подразделения, отвечающие за экономику. На международной арене функции адвоката по-прежнему будет выполнять Госдума, а вот Кремль сблизит свою позицию с Западом, особенно в части подталкивания к внутриполитическому диалогу и изменению избирательного законодательства.

**Беседовал**
**Павел ВЛАДИМИРОВ.**

